

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№2(118)

15 студзеня 2014 | Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# КРАЎЦОЎ ЗАСТАНЕЦЦА ДЭПУТАТАМ

## *Цэнтрвыбаркам паведаміў, што новых выбараў не будзе*

Алена ПАЛЯКОВА

***У снежні мінулага года былы кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ па Крычаўскай выбарчай акрузе №83 Валерый Каранкевіч накіраваў лісты ў Палату прадстаўнікоў і Цэнтрвыбаркам. У заявах на імя старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Андрэйчанкі і старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай спадар Каранкевіч прапанаваў выбраць іншага дэпутата ў парламент ад Крычаўскай выбарчай акругі (Крычаўскі, Клімавіцкі і Хоцімскі раёны).***

Валерый Каранкевіч зыходзіў з таго, што дзеючы дэпутат Уладзімір Краўцоў ужо не можа ў поўнай меры выконваць свае дэпутацкія абавязкі. Гэта абумоўлена тым, што напрыканцы восенні Краўцоў быў прызначаны старшынёй Гродзенскага аблвыканкама. Таму можна меркаваць, што ў сувязі з прызначэннем ён не здолее прафесійна займацца дэпутацкай дзейнасцю. У абаснаванне сваёй высновы Валерый Каранкевіч спасылаецца на тое, што пераезд Уладзіміра Краўцова ў Гродна робіць немагчымым выкананне шэрагу артыкулаў Закона РБ «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

Для праваабарончага сайта spring96.org спадар Каранкевіч паведаміў: «Я лічу, што ў сувязі з выкананнем абавязкаў губернатара Гродзенскай вобласці Уладзімір Краўцоў ужо не можа быць дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, бо ён не мае магчымасці выконваць свае дэпутацкія функцыі, вырашаць праблемы сваіх выбаршчыкаў. Дадзеная сітуацыя патрабуе пераабрання дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Крычаўскай выбарчай акрузе №83. На мой погляд, перавыбары можна правесці адначасова з выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў». А каб усё было правільна, трэба правесці ўсе працэдурныя пытанні згодна заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Неўзабаве Валерый Каранкевіч атрымаў адказ з Цэнтрвыбаркаму. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына абвесціла, што Цэнтрвыбаркам не збіраецца праводзіць новыя выбары дэпутата Палаты прадстаўнікоў у Крычаўскай выбарчай акрузе № 83. Прычынай для адмовы ў правядзенні выбараў з'яўляецца тое, што паўнамоцты Уладзіміра Краўцова, абранага ў 2012 годзе дэпутатам Палаты прадстаўнікоў ад гэтай выбарчай акругі, не спынены. І таму ў Цэнтрвыбаркама няма прававых падстаў для прызначэння новых выбараў дэпутата ў дадзенай выбарчай акрузе.




«З Цэнтрвыбаркама адказ даслалі хутка, аднак па зместу гэта фактычна адпіска, — лічыць Валерый Каранкевіч. — Пры гэтым Лідзія Ярмошына нічога не піша па сутнасці майго звароту, дзе я прывожу дакладныя спасылкі на шэраг артыкулаў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь», з якіх ясна бачна, што Уладзімір Краўцоў не можа выконваць абавязкі дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Крычаўскай выбарчай акрузе №83. Гэта проста нейкі анекдот — губернатар Гродзенскай вобласці застаецца дзеючым дэпутатам Палаты прадстаўнікоў ад усходу Магілёўскай вобласці.

Зараз буду чакаць, што мне адкажа старшыня Палаты прадстаўнікоў Андрэйчанка. Не выключана, што давядзецца звяртацца ў суд па гэтаму пытанню».

Дадаткова падкрэслім, што згодна з патрабаваннямі заканадаўства дэпутату Палаты прадстаўнікоў нельга знаходзіцца на іншай дзяржаўнай пасадзе. Тым не менш, як бачым, Уладзімір Краўцоў працягвае сумяшчаць сваё дэпутацтва з пасадай старшыні аблвыканкама. Дзіўная сітуацыя, калі парламентарыі не выконваюць законы, якія яны самі прымаюць у парламенце.



# НЕ ПУСЦІЛІ НА ПАСЯДЖЭННЕ АДМІНІСТРАЦЫЙНАЙ КАМІСІІ

Сяргею Аржанцаву, выдаўцу грамадска-палітычнага бюлетэня "Клімавіцкая Інфа-Панарама", які з'яўляецца сябрам ГА "БАЖ" (Беларуская асацыяцыя журналістаў), адмовілі ў праве прысутнічаць на пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама.

8 студзеня на пасяджэнні камісіі павінны былі разглядацца некалькі спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія зацікавілі выдаўца незалежнага выдання.

Старшыня адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама Наталля Асмалоўская, якая адначасова з'яўляецца кіраўніцай справамі райвыканкама, забараніла Сяргею Аржанцаву прысутнічаць на пасяджэнні.

Між тым, згодна з артыкулам 2.14 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, "Справы аб адміністрацыйных правапарушэннях разглядаюцца адкрыта".

У звязку з гэтым Сяргей Аржанцаў пакінуў адпаведны запіс у кнізе заўваг і прапаноў Клімавіцкага райвыканкама. Ён напісаў, што старшыня адміністрацыйнай камісіі Наталля Асмалоўская адмовіла яму ў праве прысутнічаць на пасяджэнні камісіі без тлумачэння прычын. І зараз Сяргей Аржанцаў жадае атрымаць афіцыйны адказ, чаму былі парушаныя яго грамадзянскія правы.



"Я хацеў папрысутнічаць на пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі, бо там павінны былі разглядаць справы з удзелам шэрагу маіх знаёмых, якія, да таго ж, маглі зацікавіць чытачоў "Клімавіцкай Інфа-Панарамы", — распавядае Сяргей Аржанцаў. — Зараз буду чакаць рэакцыі з боку чыноўнікаў Клімавіцкага райвыканкама, а потым буду планаваць свае далейшыя дзеянні".

**** Служба маніторынгу ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"***

# ЗА СВИНЬЮ — ПОД СТАТЬЮ?

**Марина НОСОВА, naviny.by**

***В деревне Домамеричи Климовичского района Могилёвской области владелица подворья Елена Марченко борется с властями против уничтожения её свиней из-за АЧС, сообщила она БелаПАН.***

По словам Марченко, 8 января состоялось заседание административной комиссии, которая вынесла ей предупреждение по поводу отказа уничтожить находящихся у неё свиноматок, поскольку её хозяйство находится в пятикилометровой зоне от крупной свинофермы.

«Объективности в рассмотрении не было. Никто не доказал, что моё личное подсобное хозяйство находится в пятикилометровой зоне от фермы. Сам населенный пункт прописан как находящийся в зоне уничтожения свиней в связи с АЧС. Но документов, что именно моё подворье находится в этой зоне, мне никто не предъявил», — сказала Марченко.

Согласно спутниковым картам, отметила она, её личное подворье находится в 5,2 км от свинофермы. «Для меня это принципиально. Я держу свиней с целью получить средства на лечение ребенка-инвалида. На просьбу компенсировать мне уничтожение свиней мне отвечают, что на это нет в бюджете средств. У меня пока осталось две свиноматки, одну я уже зарезала за две недели до опороса», — сообщила женщина.

Марченко обращалась в августе в ряд инстанций со своей проблемой — в Министерство сельского хозяйства и продовольствия, Комитет государственного контроля, сельсовет. «После обращений на меня было заведено уголовное дело за «распространение заведомо ложной информации», — отметила она.



Женщина сообщила, что в общей сложности обошла более десятка чиновников, но всюду на её жалобы в ответ «стоит стена».

Марченко готова обжаловать решение административной комиссии в суде, а также написала обращение в Администрацию президента, чтобы ей разъяснили постановление Совета министров, на основании которого её обязывают уничтожить свиней.

Ранее БелаПАН сообщал, что в Климовичском районе приняты усиленные меры безопасности в связи с выявленным в соседнем Шумячском районе Смоленской области России очагом африканской чумы свиней. Там был убит кабан с вирусом АЧС. Территория Климовичского района объявлена «второй зоной угрозы»: после непродолжительного затишья от частных хозяев снова требуют, чтобы они избавились от домашних свиней.

Первая информация о вспышке АЧС в Беларуси появилась в конце июня 2013 года. К концу августа в стране официально было зафиксировано два очага заболевания — в Ивьевском районе Гродненской области и Витебском районе. Белорусские власти заявили, что причиной заболевания свиней стал зараженный комбикорм, который был поставлен предпринимателем из-за пределов Беларуси и реализован населению.





# ЯК ГАЛАСАВАЛІ НА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ-2010

## ці чаму афіцыйныя вынікі дасюль выклікаюць шмат пытанняў

Цімур НЯЗВАНАЎ

***Прэзідэнцкія выбары 2010 года адрозніваліся ад усіх мінулых выбараў тым, што яны ўпершыню ўсур'ёз і па-сапраўднаму выклікалі вострую незадаволенасць грамадства прад'яўленымі яму вынікамі галасавання. Сёння мы вырашылі зноў нагадаць аб падзеях тых часоў.***

| | Клімавіцкі раён | Крычаўскі раён | Чэрыкаўскі раён |
|---|---|---|---|
| Усяго выбаршчыкаў | 21.225 | 26.481 | 10.868 |
| З іх галасавала | 20.093 (94,67%) | 24.889 (93,99%) | 10.763 (99,03%) |
| Супраць усіх | 730 | 765 | 79 |
| Несапраўдныя бюлетэні | 161 | 238 | 19 |

Вясной 2011-га Цэнтральная выбарчая камісія абвесціла аб выхадзе з друку зборніка электаральнай статыстыцы "Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2010 годзе". Зборнік змяшчае статыстычныя матэрыялы, якія паведамляюць афіцыйную інфармацыю аб усіх стадыях працэсу падрыхтоўцы і правядзення прэзідэнцкіх выбараў. З ягонага зместу нарэшце можна даведацца аб тым, як праходзіла галасаванне ў кожным раёне краіны, якія там атрымаліся вынікі. Справа ў тым, што на месцах, непасрэдна ў рэгіёнах, на гэтую тэму размаўлялі вельмі і вельмі неахвотна. Раённыя выбарчыя камісіі паведамлялі звесткі без фактычных падрабязнасцей. Па вялікаму рахунку хутчэй можна казаць пра замоўчванне інфармацыі, чым пра яе давядзенне да ведама выбаршчыкаў.

Знаёмства са зборнікам ЦВК дазваляе здагадацца, чаму раённыя камісіі не пажадалі агучыць ў мясцовых СМІ альбо для зацікаўленых асобаў гэтыя падрабязнасці.

Прааналізуем некаторыя дадзеныя па трох раёнах нашага рэгіёну.

Згодна з афіцыйнымі звесткамі, Лукашэнка набраў тут абсалютную большасць галасоў. У Клімавіцкім раёне — 17087 галасоў (85,04% ад усіх прагаласаваўшых), у Крычаўскім — 21124 (84,87%), у Чэрыкаўскім — 10441 (97,01%). Гэта азначае, што ў любым месцы, дзе прысутнічаюць 10 жыхароў аднаго з гэтых раёнаў, павінна абавязкова знаходзіцца 8 ці нават 9 прыхільнікаў Аляксандра Рыгоравіча. Так гэта ці не, мяркуйце самі. У якасці простага эксперыменту клімаўчане або крычаўцы могуць апытаць 10 сваіх знаёмых. Калі 8 з іх прагаласавала за дзеючага прэзідэнта, то ніякіх прэтэнзій да падлікаў раённых выбарчых камісій няма.

А чаму ўзнікаюць такія прэтэнзіі? Напрыклад, сярод іншага нельга не звярнуць увагу на наступную супярэчнасць. Паміж Чэрыкаўскім раёнам і Клімавіцкім ці Крычаўскім розніца ў колькасці выбаршчыкаў прыкладна ў два разы. Але ж у Чэрыкаве супраць усіх прагаласавала 79 выбаршчыкаў, а ў Клімавічах і Крычаве адпаведна — 730 і 765. Не ў два-тры разы болей, як можна было б чакаць, а амаль што ў дзесяць разоў болей! Магчыма, хтосьці пажадаў, каб канкрэтныя галасы былі аддадзены не за канкрэтных кандыдатаў, а супраць усіх? Тое ж супярэчанне назіраецца і з несапраўднымі бюлетэнямі. У Чэрыкаве ўчастковыя выбарчыя камісіі выявілі ўсяго 19 несапраўдных бюлетэняў, а ў Клімавічах і Крычаве — 161 і 238. Зноў не ў дватры разы болей, а нашмат болей. Гэта што ж за несур'ёзныя выбаршчыкі такія, якія чамусьці развучыліся галасаваць і псуюць дзясяткі бюлетэняў...

Наапошак яшчэ аб адным адкрыцці. Аказваецца, на выбарах-2010 у нашым рэгіёне адным з самых моцных і папулярных кандыдатаў быў спадар Цярэшчанка (ці памятае сёння хто-небудзь такога канкурэнта?). Па афіцыйных дадзеных за гэтага "грознага" суперніка Лукашэнкі прагаласавала больш выбаршчыкаў, чым за кандыдата ад БНФ Рыгора Кастусёва, які добра вядомы па ўсёй Магілёўшчыне. Ведаеце, у гэта паверыць яшчэ цяжэй, чым у тое, што Лукашэнку падтрымалі кожныя дзевяць з дзесяці выбаршчыкаў Чэрыкаўскага раёну.

# У 364 АКРУГОВЫЯ КАМІСІІ ТРАПІЛІ ТОЛЬКІ 11 ПРАДСТАЎНІКОЎ АПАЗІЦЫЙНЫХ ПАРТЫЙ



Вясной 2014 года адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. БелаПАН паведамляе, што ўсяго ў склад 364 акруговых камісій, утвораных для выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў, увайшлі 4393 чалавекі (было вылучана 5438 чалавек). Сярод іх ёсць 233 прадстаўнікі палітычных партый з 504 вылучаных.

Паводле звестак Цэнтрвыбаркама, пераважная большасць партыйных прадстаўнікоў, уключаных у акруговыя камісіі, прадстаўляюць праўладную Камуністычную партыю Беларусі (148 чалавек з 173 вылучаных).

У той жа час з 97 прадстаўнікоў Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» у склад камісій уключаныя толькі восем чалавек, з 44 прадстаўнікоў Партыі БНФ — тры. А ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) у склад акруговых камісій не ўключаны ніводны чалавек (вылучалі адпаведна 36 і 8 прадстаўнікоў).



# НАЧАЛЬНИК ГАИ БЕЛАРУСИ РАССКАЗАЛ, ЧТО ЖДЁТ АВТОМОБИЛИСТОВ В 2014-М

***Сайт gazetaby.com информирует, что во время прямой телефонной линии в редакции «Транспортного вестника» начальник ГАИ МВД Юрий Литвин ответил на вопросы автомобилистов. Обсуждали, в том числе, госпошлину на допуск автомобиля к участию в дорожном движении.***

По данным УП «Белтехосмотр» и ГАИ МВД РБ, примерно 20% транспортных средств ездят по белорусским дорогам незаконно — без техосмотра. Можно предположить, что в 2014 году таких фактов будет регистрироваться больше – сегодня водителям откровенно выгоднее заплатить штраф за отсутствие техосмотра (до 260 тыс. рублей), чем заплатить госпошлину (для легковых машин – в среднем 650 тыс. рублей).

Литвин уверен, что менее безопасными из-за этого белорусские дороги не станут:

— Глобально обстановка не ухудшится, количество людей, которые не проходят техосмотр, не увеличится. Будет примерно так же, как и сейчас. Конечно, кто-то будет ездить без техосмотра, но не большинство.

Собеседники начальника ГАИ интересовались и определением сумм штрафов для водителей нарушителей: в частности, не все считают справедливым наличие в законодательстве так называемой вилки штрафов – «от...» и «до...» – и предполагают, что это способствует коррупции среди сотрудников ГАИ, отмечает TUT.BY.

Оказывается, Юрий Литвин «только за» конкретную сумму штрафа за каждое отдельное нарушение.

— Наши предложения в Госавтоинспекции для законодателя сводились именно к такому моменту, чтобы исключить так называемую вилку. Но ответ на наше предложение дают такой: у человека всегда есть какие-то смягчающие обстоятельства, отягчающие и т.д. Поэтому пока мы пользуемся тем, что у нас есть.

Кроме того, начальник ГАИ страны рассказал, какие нововведения планируются в белорусском законодательстве в наступившем году.

— Это обязательное использование зимней резины, детских удерживающих сидений (кресел). Также будет введена ответственность собственников автомобилей за неправильную парковку. Существует база данных ГАИ, по которой выясняется, что конкретный автомобиль зарегистрирован на такого-то гражданина. Если автомобиль стоит неправильно, привлекается не тот, кто припарковал, а человек, на которого этот автомобиль зарегистрирован.

# У ГОМЕЛІ АШТРАФАВАЛІ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЗАКЛІКАЎ НЕ ПІЦЬ

***Па інфармацыі БелаПАН, Суд Цэнтральнага раёна Гомеля прызнаў 9 студзеня каардынатара грамадзянскай кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць» Дзмітрыя Карашкова вінаватым па артыкуле 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Суддзя Алена Цалкова пакарала актывіста штрафам у памеры 10 базавых велічынь (1,3 млн. рублёў).***

11 лістапада Карашкоў выйшаў да аблвыканкама з расцяжкай, на якой было напісана «Спыніце продаж алкаголю каля школ!». Карашкова даставілі ў аддзяленне міліцыі, дзе склалі адміністрацыйны пратакол. У судзе актывіст віны сваёй не прызнаў, патлумачыўшы, што яшчэ ў лютым 2013 года звяртаўся ў гарвыканкам па дазвол на правядзенне антыалкагольнага пікету, як таго патрабуе заканадаўства і рашэнне мясцовых уладаў «Аб масавых мерапрыемствах».

Дазволу на правядзенне мерапрыемства ён не атрымаў, таму ў дадзеным выпадку палічыў, што звяртацца ў гарвыканкам бессэнсоўна. А права на правядзенне мірных сходаў гарантавана грамадзянам Канстытуцыяй.

«Я буду абскарджваць рашэнне суда і працягваць сваю дзейнасць. Праблема алкагалізацыі стаіць востра, улады не могуць заплюшчваць не яе вочы. Разам з тым яны не дапускаюць актыўнасці грамадзян, выказвання пратэсту, таму рашэнне суда было для мяне чаканым», — сказаў Карашкоў.



**Несанкционированная акция**

# МГУ ИМ. КУЛЕШОВА ЗАНЯЛ 20-Е МЕСТО В РЕЙТИНГЕ БЕЛОРУССКИХ ВУЗОВ

**Антонина БЛИЗНЮК, mogilevnews.by**

***В Министерстве образования Беларуси впервые разработан рейтинг отечественных учреждений высшего образования по итогам приемной кампании 2013 года. В него вошли 48 белорусских вузов.***

***Как сообщает пресс-служба Министерства образования, цель составления рейтинга — оценить потенциал студентов I курса в 2013 году. Для сравнения брались как количественные показатели (количество абитуриентов, принятых за счет средств бюджета; количество абитуриентов, принятых на условиях оплаты и др.), так и качественные показатели (проходной балл по специальности).***

***Могилевский государственный университет им. А. Кулешова занял 20-е место в рейтинге вузов. 22-е место досталось Белорусской государственной сельхозакадемии. На ступеньку ниже обосновался Белорусско-российский университет. Могилевский государственный университет продовольствия — на 33 месте. Белорусский институт правоведения занял 39 место.***





# ГРОШЫ НА ЛЕНІНА

Ясь ГАСПАДАР

***Незалежны тэлеканал “Белсат” задаўся пытаннем: “Колькі помнікаў Леніну ў Беларусі?”. Калі была сабраная адпаведная інфармацыя, то высветлілася наступнае. З пачатку 1930-х і да сярэдзіны 80-х гадоў у Беларусі ўзвялі 64 помнікі Леніну. І самае цікавае, што беларускія ўлады дасюль клапоцяцца аб тым, каб захаваць выявы “правадыра сусветнага пралетарыяту” ў найлепшым стане.***

Менш за ўсё каменных помнікаў Леніна на Віцебшчыне і Магілёўшчыне — па 7 штук. У Брэсцкай, Гомельскай і Гродзенскай вобласцях — па 10. Больш за ўсё ў Мінскай вобласці — 20 штук. Прычым 8 з іх месціцца ў сталіцы.

У Чэрыкаве таксама ёсць свой Ленін, які знаходзіцца ў цэнтры горада. Мы згадалі аб ім па той прычыне, што вакол яго даволі працяглы час раскручвалася гісторыя з так званай “народнай рэстаўрацыяй”. Першыя згадкі аб гэтым датуюцца 2003 годам, калі раённыя ўлады абвесцілі пра намер рэстаўрыраваць помнік на цэнтральнай плошчы. Афіцыйна ініцыятыва належыла прафсаюзам на чале з іх кіраўнічкай Швінгельскай.

Беларускія грамадзяне ўжо прызвычаіліся да таго, што з іх збіраюць грошы на самыя розныя патрэбы. Гэта ўнёскі на Чырвоны Крыж, набыццё латарэйных квіткоў, ахвяраванні на рамонт школ і бальніц, на аднаўленне царкоўных будынкаў. А вось на рэстаўрацыю Леніна збіралі грошы, здаецца, толькі ў адным Чэрыкаўскім раёне. Па тых часах гэта была вялікая сума, мясцовыя жыхары казалі пра 10 мільёнаў рублёў.

Зразумела, што не ўсе былі згодныя з прафсаюзнай ініцыятывай. Напрыклад, чэрыкаўлянін Алег Сорын у тым далёкім 2003 годзе прапанаваў чыноўнікам зрабіць за гэтыя грошы перабудову цэнтральнай плошчы, а не выдаткоўваць сродкі на помнік савецкіх часоў. Але якраз на гэта, як патлумачылі раённыя ўлады, фінансавання не хапае. Па сутнасці, як меркаваў яшчэ адзін чэрыкаўлянін Яўгеній Шарабурка, у людзей адсутнічаў выбар. І таму народ у індывідуальным і грамадскім парадку пачаў скідвацца на паляпшэнне выгляду Уладзіміра Ільіча.

Збор грошай зацягнуўся на працяглы тэрмін, што само па сабе сведчыць аб сапраўдным стаўленні мясцовых грамадзян да ідэі “народнай рэстаўрацыі”. Праз некалькі гадоў на старонках «Советской Белоруссии» прамільгнула невялічкая звестка, што ў Чэрыкаве адбываецца рамонт помніка Леніну. Паведамлялася, што ў раёне дзеля гэтага сабралі каля 8 мільёнаў рублёў. Так што ўлады ўрэшце рэшт дамагліся свайго. Але ці можна сцвярджаць, што гісторыя на гэтым сапраўды скончылася?

На наш погляд, грамадства яшчэ звернецца да разгляду пытання, што рабіць з помнікамі Леніну ў Беларусі. Наўрад ці яны застануцца на вуліцах і плошчах беларускіх гарадоў. Апошнія падзеі ў Кіеве, дзе разбілі адзін з такіх помнікаў, паказваюць, што перамены адбываюцца насуперак уладным жаданням. Галоўнае, каб у неабходнасць перамен паверыў народ, і тады — яны абавязкова адбудуцца.

Дарэчы, тэлеканал “Белсат”, які падлічыў колькі Ленінаў знаходзіцца ў нашай краіне, нядаўна запрасіў на размову вядомага беларускага мастака Алеся Марачкіна. Знакаміты ўраджэнец Чэрыкаўшчыны распавёў, што пляскаў у ладкі, калі пабачыў кадры знішчэння помніка Леніну ў Кіеве: «Калі народ прайшоў праз рэпрэсіі і гвалт, то тут не да культуры, каб яго акуратна зняць». Мастак перакананы, што гэтыя помнікі варта прыбіраць і ў Беларусі: «Трэба пакаяцца, і не толькі нам, якія цярпелі, але і тым, якія навязалі нам гэтую ідыёцкую ідэю «пралетарыі ўсіх краінаў, яднайцеся».

Іншая рэч, адзначыў спадар Марачкін, што ў яго як у мастака не паднялася б рука малаціць скульптуру Леніна ці Сталіна: «Як бы там ні было, гэта твор мастацтва і ён павінен недзе знаходзіцца», — адзначыў госць “Белсату”. Найлепш зрабіць дэмантаж савецкіх помнікаў і адвесці адмысловае месца для іх захоўвання.



«Хачу верыць: там, дзе зараз помнік Леніну перад Домам ураду, будзе помнік «Звон свабоды» з выявамі беларускіх герояў. І вуліцы будуць не Калініна, Свярдлова, а нашых дзеячоў. Тады мы будзем бліжэй да нашых людзей, да нашай гісторыі, будзем бачыць і адчуваць нашую перспектыву і нашае сённяшняе жыццё».

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА:

МАРАЧКІН Аляксей Антонавіч — нарадзіўся ў вёсцы Новая Слабада (былая Папоўшчына) Чэрыкаўскага раёну. Сябра Саюзу мастакоў з 1974 г. У 1990-1997 гг. загадчык кафедры жывапісу Беларускай Акадэміі Мастацтваў. Творы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, а таксама ў іншых музеях Беларусі і замежжа. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа.

## УКРАІНЦЫ ПАЗБАЎЛЯЮЦЦА АД ПОМНІКАЎ ЛЕНІНУ

***Украіна пачала пазбаўляцца ад камуністычных помнікаў. Вось хроніка адпаведных падзей за першую палову студзеня 2014 года.***

* 4 студзеня помнік Леніну разбурылі ў Мікалаеўскім раёне Адэскай вобласці. Манумент, які стаяў у парку, павалілі на зямлю, у выніку чаго ён раскалоўся на дзве часткі.

* 6 студзеня разбурылі помнік Леніну каля адной са школ горада Бярдзічава, што ў Житомірскай вобласці. Двухметровую статую зрынулі з пастамента з дапамогай вяроўкі.

* 9 студзеня знеслі галаву помніку Леніну, які стаіць каля сельсавета ў пасёлку Пабярэжнае Вінніцкай вобласці. На помніку пакінулі надпісы: «Кат Украіны».

* 10 студзеня абезгаловілі помнік Леніну ў райцэнтры Машэўка Палтаўскай вобласці.



# КЛІМАЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

Яраслаў КЛІМУЦЬ

***УСТУПНАЕ СЛОВА АД “КЛІМАВІЦКАЙ ІНФА-ПАНАРАМЫ”:***

***Знайсці гэтую кніжачку было даволі складана. Справа ў тым, што надрукавалі яе накладам усяго 10 асобнікаў. У 2007 годзе выкладчык Магілёўскага ўніверсітэта Яраслаў Клімуць падрыхтаваў нарыс аб пісьменніках Клімаўшчыны XIX – першай паловы XX стагоддзя. Аповед суправаджаецца партрэтамі літаратараў і характарыстакамі іх творчай дзейнасці. Невялічкі ўрывак з яго прапануецца зараз нашым чытачам. Таксама адзначым, што выданне “Клімаўшчына літаратурная” выйшла пры дапамозе Асацыяцыі краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны.***



Клімаўшчына багатая на народныя таленты. Гэта пацвердзілі многія збіральнікі вуснай народнай творчасці ў канцы XVIII і на працягу наступных стагоддзяў. Выдадзеныя творы паказваюць, што на Клімаўшчыне, як і ва ўсёй Беларусі, народ жыў творча. Фальклор быў не толькі адпачынкам пасля напружанай тыднёвай працы, але выконваў і многія этычна-маральныя функцыі: праз мастацкі твор (песню, казку, прымаўку і інш.) перадаваўся жыццёвы вопыт, асновы маралі, этычных адносін. З цягам часу нешта страціла сваю вартасць, бо змянялася сутнасць сацыяльнага ўкладу жыцця, аднак мастацкія вартасці твораў, асноўныя маральна-этычныя законы застаюцца пераканальнымі і на сённяшні дзень.

Праца ў жыцці беларуса ўспрымалася не толькі як цяжкі, знясільваючы штодзённы абавязак, але і як творчасць, у працэсе якой чалавек атрымліваў сапраўдную асалоду. Таму пацверджанне запісы шматлікіх твораў рознага жанру, якія былі зробленыя на Клімаўшчыне на працягу апошніх двух стагоддзяў... Фальклор багаты на Клімаўшчыне ва ўсіх жанрах. Цікава праходзілі сямейныя абрады, песні, якія выконваліся ў іх, вызначаліся каларытнасцю, займальнасцю, фанетычнымі выразнымі сродкамі. Багата пазаабрадавай паэзіі, дзіцячага фальклору.

Не менш цікавым з’яўляецца і празаічны жанр. Шмат вядома народных анекдотаў, паданняў, запісаных у Клімавіцкім раёне. Сацыяльна-бытавыя бытавыя, чарадзейныя казкі, якія ў розны час былі зафіксаваныя ў гэтым рэгіёне, сведчаць пра народныя таленты. Вядома. у збор твораў фальклору ўваходзяць найбольш мастацкія варыянты, або больш сюжэтна і кампазіцыйна арганізаваныя, што ў большай ступені залежала ад апавядальніка. Распаўсюджаны на Клімаўшчыне сюжэты казак пра бабу і чорта, папа і мужыка з сацыяльна-бытавога цыклу. Цікавымі з’яўляюцца казкі чарадзейныя “Няшчасны егар”, “Іван Васільевіч — стралок”. Сюжэты гэтых казак распаўсюджаныя ва ўсёй Беларусі, аднак у збор увайшлі запісаныя менавіта на Клімаўшчыне. Галоўны матыў — імкненне да шчасце і пакаранне хцівых людзей. У абедзвюх казках і егер, і стралок, прайшоўшы шэраг выпрабаванняў, пераадолеўшы ўсе перашкоды з дапамогай сваіх чароўных жонак, становяцца ўладальнікамі царства , у першым выпадку, памесця — у другім, а іхнія ворагі, якія падманам хацелі знішчыць молайцаў і завалодаць іхнімі прыгожымі і разумнымі жонкамі, караюцца, прытым гінуць яны без непасрэднага ўдзелу пакрыўджаных. Мяркуючы па багацці народных твораў, запісаных у XIX стагоддзі, можна зрабіць дапушчэнне, што былі і аўтарскія творы, але доўгі час распаўсюджання ў вуснай форме прывяло да фальклaрызацыі іх.

Літаратурнае жыццё на Клімаўшчыне ў XIX стагоддзі развівалася ў рэчышчы ўсяго творчага працэсу. Хоць такіх значных твораў не зафіксавана, але гэта не значыць, што рэгіён быў у нейкім культурным вакууме. Уласна беларускія творы існавалі, магчыма і пісаліся, але перадаваліся толькі ў вуснай форме. Акрамя ананімных гутарак, былі шырока вядомыя тады ананімныя, а сёння ўжо аўтарскія творы “Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе”, што дало падставы даследчыку П.Шаўцову, як ураджэнцу Клімавіцкага раёна, шукаць аўтараў менавіта тут. У заключэнні краязнаўча-пошукавага выдання “Спрадвечнае” ён піша: “Можна сцвярджаць, што абедзве паэмы нарадзіліся ва усходняй Магілёўшчыне, а больш дакладна — у Клімавіцкім павеце”. У іншых выданнях ён нават называе аўтара паэм, аднак гэта гіпотэза пазнейшымі навуковымі даследаваннямі не пацвердзілася. Тым не менш, яго кнігі цікавыя для краязнаўцаў, бо ён робіць пералік шматлікіх архіўных матэрыялаў, забытых і паўзабытых дакументаў, іншых сведчанняў.

## НОВЫЯ СЯБРЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

***На снежаньскім пасяджэнні Рады Грамадскага аб’яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" новымі сябрамі арганізацыі сталі 13 літаратараў. Прыемна адзначыць, што сярод іх — ураджэнка Клімавіцкага раёна Лідзія Мініч, вядомая як пісьменніца Лідзія Андрэева.***

Мініч (Андрэева) Лідзія Андрэеўна нарадзілася 22 студзеня 1940 года ў вёсцы Рэкта Клімавіцкага раёна.

Сярэднюю адукацыю атрымала ў Клімавічах, затым навучалася на заатэхнічным факультэце БСГА, скончыла аспірантуру, выкладала. Мае навуковае званне — кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт.

Першыя вершы друкаваліся ў газетах і часопісах. У 2005 годзе з’явіўся першы зборнік. На сёння ў Лідзіі Андрэевай выйшла 6 паэтычных зборнікаў: “Спешу сказать…” (2005), “Жыватворная крыніца” (2007), “Мая сям’я ад А да Я: вершы для дзяцей” (2010), “Споведзь” (2010), “На хвалях вечнасці: міфы і легенды ў вершах” (2012), “І боль, і мары, і любоў” (2013).

# ДАГЕСТАНСКІ РАБ АЛЯКСАНДР: Я ТУТ НІХТО І ЗВАЦЬ МЯНЕ НІЯК

Алесь ДАШЧЫНСКІ, Радыё Свабода

***31-гадовы жыхар Краснапольскага раёну Аляксандр Шаўцоў, якога мінулым летам захапілі ў рабства ў Расіі, уцёк з няволі. Ягоныя пакуты ў Расіі працягваліся 9 месяцаў.***



Цяпер з 29 снежня ён знаходзіцца ў дагестанскім сяле Карабудахент, кіламетраў за 40 ад Махачкалы. Часовы прытулак Аляксандру даў мясцовы жыхар Мурат. Аляксандр чакае дапамогі з Беларусі. Ён распавёў сваю гісторыю карэспандэнту Свабоды:

«Паехалі на працу, на будоўлю. Працаваў у Расіі, у Маскве. Там непаразуменні выйшлі, і нас не разлічылі. І трапіў у Дагестан. Прапанавалі працу. Толькі няясна было, дзе. А калі зразумеў, то было ўжо позна. Калі я першы раз трапіў у Дагестан, я трапіў на цагельны завод. Адпрацавалі мы там месяц. Цяжка было. Там таксама хлопец з Воршы быў і таксама з Бабруйску. З хлопцам з Воршы, з Вовам, мы сышлі 17 ліпеня мінулага года з заводу. Трапілі на падпрацоўку да адной жанчыны, зрабілі хляўчук. Яна заплаціла, і нам хапіла да Астрахані даехаць. А што ў Астрахані — грошай няма, і таксама працу шукалі. І потым я трапіў у Калмыкію, таксама бяз грошай, без нічога. У Калмыкіі быў 4 месяцы. На кропцы, гэта дом у стэпе, дзе трымаюць скаціну — бараноў, кароў. Але людзі добрыя, плацілі заробак, апраналі і кармілі.

2 снежня я выехаў з Астрахані, даехаў да Валгаграда, потым на Маскву. 3 снежня даехаў у Маскву. А там атрымалася такая сітуацыя, што ў мяне грошы адабралі. І 5-га снежня я зноў паехаў у Дагестан. І таксама так прыехалі, куды — невядома. Дзе высадзілі, таксама не ведаю. Дзе працаваў, таго сяла не ведаю. Проста было ўжо холадна, і вырашылі ісці дахаты. А пайшлі не ў той бок, і вось трапіў да Мурата. Ён проста ўбачыў, што я з сумкай, бадзяга. Прыняў мяне ў свой дом, знаходжуся ў яго. Я тут ніхто і зваць мяне ніяк. Калі нават адсюль я выйду, адзін Бог ведае, куды я траплю. Можна вунь у горы трапіць, бараноў папасвіць гады тры-чатыры. І цябе наагул ніхто шукаць не будзе».

Аляксандр распавёў, што на цагельным заводзе грошы плацілі толькі пасля заканчэння сезону, праз паўгода.

«А заплацяць ці не заплацяць — гэта толькі адзін Бог ведае. Месяц там папрацавалі, я быў на штабялёўцы. Цяжкая праца, 14 гадзін працоўны дзень. Жылі ў пакоях па пяць чалавек. Кармілі — грэчка, манка, суп... Апошні раз я звязаўся з мамай з цагельнага заводу 15 ліпеня мінулага году. Проста ў хлопца быў тэлефон, і праз яго звязваліся. А потым 17 ліпеня я сышоў з цагельнага. Мамчын мабільны тэлефон я згубіў. А пазваніць на хатні не было адкуль».

* Карэспандэнт: «А з цагельнага заводу вы як сышлі?»

* Аляксандр: «Правільней сказаць — зрабілі ногі. Карацей, збеглі ноччу, а 2 гадзіне ночы. Гэта было лета, цёпла. Пайшлі праз Махачкалу».

Пра працу ў Расіі Аляксандр кажа так:

«Гледзячы дзе працаваць будзеш. Недзе ж людзі плацяць, і нармальна плацяць. І заробак як заробак. Усё нармальна. А недзе ж і скоцтва такое ёсць».

Аляксандр спадзяецца, што яму дапамогуць з Беларусі выбрацца з Дагестану і вярнуцца дахаты.

«Я нікуды не збіраюся сыходзіць. Вы там вырашайце, нумар ёсць, тэлефануйце. Міліцыя, паліцыя, думайце. Я не ведаю, тут павінна быць дэпартацыя ці што, я ж іншагародні ўжо. Я ж беларус. Пашпарт у мяне ёсць на руках. Я хачу выехаць. Мне тут людзі гатовыя дапамагчы, але чакаюць падтрымкі з беларускага боку. Калі нехта паедзе па мяне ў Махачкалу ці нехта суправаджаючы, Мурат мяне адвязе і перадасць з рук у рукі. Мне хочуць усе дапамагчы. Але, са свайго боку, з Беларусі ніякай падтрымкі нават не адчуваю. Каб тут не дапамаглі дазваніцца да бацькоў, я не ведаю, што я наагул рабіў бы. Я збіраюся дахаты, але як мне адсюль выехаць, калі ў мяне грошай няма ні капейкі? Я ўжо ў вышуку, я не ведаю, калі там мяне маці падала ў вышук. Мяне ніхто не шукае. Вы ж таксама мне павінны дапамагчы неяк адсюль выехаць».

**ІНФАРМАЦЫЯ Ў ТЭМУ:**

***Лідзія Іванаўна, маці Аляксандра Шаўцова, кажа карэспандэнту Свабоды, што падтрымлівае сувязь з сям'ёй, якая дала яе сыну прытулак:***

***«Яго падабрала адна сям'я. Сказаў ён, што яны яго пакуль не выганяюць. Далі прытулак, адзежу. Пазычылі б і грошы — пасадзілі б на аўтобус ці маршрутку. Аднак, як ён кажа, даехаць ён зможа толькі да першага паста, і яго зноў „здымуць" і аддадуць у рабства, бо за яго заплаціў гаспадар. А калі ён трапіць зноў у няволю, то пэўна не ўратуецца. Дапамажыце, кажа, вярнуцца».***

***Лідзія Іванаўна, калі не было звестак ад сына, спрабавала яго знайсці праз перадачу «Жди меня» на расійскім тэлебачанні. Аднак пазней, калі Аляксандр абазваўся, ёй сказалі, што перадача не можа паехаць у Дагестан і забраць яго адтуль. Звярталася маці па дапамогу і ў міліцыю:***

***«Я заяву пісала, калі яшчэ не ведала, дзе ён. Значыўся як бяз вестак зніклы. Цяпер месцазнаходжанне ягонае яны ведаюць. Кажуць, што мне трэба пісаць ліст у Міністэрства ўнутраных спраў Дагестану і растлумачыць сытуацыю, як што здарылася, каб тыя дапамаглі яму адтуль выехаць».***

***Лідзія Шаўцова непакоіцца, што напісаўшы такі ліст, яна можа нашкодзіць не толькі сыну, але і сям'і, якая яго ратуе.***

***Лёсам Аляксандра Шаўцова цяпер займаюцца беларускія праваабаронцы. Яны шукаюць магчымасці вярнуць Шаўцова на радзіму.***





# НАРОЧНО НЕ ПРИДУМАЕШЬ

* Дорогая невеста! Заботься о муже. Брак — это забота. Это такая забота, когда думаешь прежде всего о нём. Всегда о нём. Всё о нём. А потом уже о другом. (Из напутствия на свадьбе.)
* Студень говяжий с хреновой закуской. (Из меню ресторана.)
* Прошу вашего разрешения выйти замуж на три дня. (Из заявления об отпуске в связи с бракосочетанием.)
* В нашей парикмахерской недодушивают посетителей. (Запись в книге замечаний и предложений.)
* Конфеты «Петушок - золотой грешок». (Надпись на ценнике.)
* А тех работников предприятия, которые злоупотребляют спиртными напитками, будем направлять к врачу-некрологу. (Из протокола собрания.)
* Я обратилась к дворнику с вопросом, кто ему разрешил сваливать снег с тротуара на проезжую часть, а он с пьяным видом послал меня туда, куда ему было надо. (Из выступления на собрании.)
* Я не была на работе с 10 по 13 января ввиду того, что вышла замуж. Обещаю, что впредь того не повторится. (Из объяснительной).
* Я изготовил 3 литра самогона и повёз бутылку на работу угостить ребят. В трамвае был задержан за безбилетный проезд. При задержании у меня изъяли самогон и дело передали в следственные органы. Я осознал свою вину и впредь всегда буду брать билеты. (Из объяснительной.)

# У КРАМЫ БЕРЛІНА ВЫПАДКОВА ЗАВЕЗЛІ ПАРТЫЮ КАКАІНУ

***У некалькіх крамах буйной сеткі супермаркетаў паліцыя выявіла 140 кг какаіну, схаванага ў скрынях з бананамі (па звестках euroradio.fm).***

Наркотыкі былі пастаўленыя ў пяць філіялаў сеткі супермаркетаў Aldi-Nord у нямецкай сталіцы. Па словах паліцыянтаў, кошт канфіскаванага какаіну складае 6 млн еўра (8,2 млн долараў).

Скрынкі з садавінай прыбылі морам з Калумбіі ў Гамбург. Адтуль іх развезлі па крамах грузавікамі, перадае BBC. Рабочыя знайшлі пакеты з какаінам пры распакоўванні кардонных скрынак з садавінай.

Як заявіў прадстаўнік паліцыі, кантрабандысты, верагодна, памыліліся і пераблыталі скрыні. Гэта самая буйная канфіскацыя наркатычных рэчываў у паліцэйскай гісторыі Берліна за шмат гадоў.

Дарэчы, чатыры гады таму супрацоўнікі іспанскага філіяла іншай нямецкай сеткі супермаркетаў Lidl выявілі амаль 80 кг какаіну. Ён быў схаваны ў скрынках з бананамі, прывезеных з Эквадора.

# УРАД ЛІТВЫ ПЛАНУЕ, ШТО ЕЎРА БУДЗЕ ЎВЕДЗЕНЫ Ў 2015 ГОДЗЕ

***Прэм'ер Літвы Альгірдас Буктявічус зрабіў заяву, што еўра ў краіне будзе ўведзены ў 2015 годзе. Паказальна, што ўжо больш за год урад Літвы дэкларуе мэту ўвесці еўра са студзеня 2015. Рашэнні ўраду і Сейму ў апошні час накіраваныя менавіта на тое, каб у краіны не ўзнікла ніякіх фармальных перашкод для рэалізацыі гэтай мэты.***

***Фінансавыя аналітыкі лічаць, што з увядзеннем еўра Літва атрымае відавочную матэрыяльную выгаду ад эканамічнага росту, інвестыцый, надзейнасці ў пытанні кошту грошай. Да таго ж, літоўцы ўлічваюць той факт, што з пачатку 2011 года да зоны еўра далучылася Эстонія, а з пачатку 2014 года — Латвія.***

# ЗА СНЕЖАНЬ БЕЛАРУСЫ КУПІЛІ 1 МЛРД. 225 МЛН. ДОЛАРАЎ

Напрыканцы 2013 года насельніцтва нашай краіны стала больш набываць валюту. Так у снежні беларусы набылі валюты на 300 млн. больш, чым у лістападзе.

Аб гэтым сведчаць статыстычныя дадзеныя Нацыянальнага банка РБ. У снежні мінулага года беларусы (фізічныя асобы) купілі 1 млрд. 225 млн. 400 тыс. долараў. А ў лістападзе — 920 млн. долараў.

БЕЛТА адзначае, што за 2013 год насельніцтва Беларусі прадало валюты на 8 млрд. 295 млн. 900 тыс. долараў, а купіла на 10 млрд. 675 млн. 900 тыс. долараў.

# УЗНАЙ СВОЙ НОМЕР ТЕЛЕФОНА ПО КАЛЬКУЛЯТОРУ!

**** 1. Берём калькулятор***
**** 2. Вводим 3 первые цифры вашего номера телефона (без всяких кодов и т.п.)***
**** 3. Умножаем на 80***
**** 4. Прибавляем 1***
**** 5. Умножаем на 250***
**** 6. Прибавляем 4 последние цифры вашего номера телефона***
**** 7. Прибавляем 4 последние цифры вашего номера телефона ещё раз***
**** 8. Отнимаем 250***
**** 9. Делим на 2***
**** 10. Офигеваем!!!***

# ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 і 2013 год.



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*